Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4. | Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ „ ад 12—14 г. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: | За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр.; за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош. |
|---|---|---|---|

№ 22 (74) Вільня, 14-га верасьня 1935 г. Год 3-ці.

## Пасьля выбараў у Сойм.

У дажджлівы дзень—8-га верасьня адбыліся выбары паслоў у польскі Сойм. Па неафіцыяльных дадзеных, якія апублікаваны ў прэсе, можна ўжо прадставіць агульныя вынікі гэтых выбараў. Вынікі гэтыя пацьвярджаюць тое, што мы ўжо раней прадбачылі. Выбрана ўсяго 206 паслоў замест 208 (у Лодзі два паслы не атрымалі вымаганых 10.000 галасоў). На 16.282.347 чалавек, меўшых права голасу, прыймалі ўдзел у выбарах толькі 7.575.681 асоба, што складае 46,5 працэнтаў.

Чым вытлумачыць такую малую колькасьць галасоў?

Як ведама, амаль усе левыя і крайне-правыя групы выбары байкатавалі (не галасавалі). Пэўная частка прэсы тлумачыць ізноў-жа малую колькасьць галасаваўшых няспрыяючымі атмосфэрычнымі варункамі (увесь дзень ішоў дождж).

Бяручы пад увагу выбары ў 1930 г., калі за сьпісак № 1 (BBWR — Беспартыйны Блёк) галасавала 5.292.725 асобаў, мы бачым значны ўзрост проўрадовае групы, які выражаецца прыблізна ў 40 працэнтаў. Трудна сказаць, што выбары выяўляюць сапраўдны ўклад сілаў у дзяржаве. Тым балей гэта можна сказаць аб мінулых выбарах у Сойм. Але цікавы яны, як выяўленьне выразнае зьмены ўнутранае палітыкі Польшчы. Яны паказываюць, што Польшча зрывае, падобна іншым дзяржавам, з папярэдняй шырака-дэмакратычнай сыстэмай кіраваньня і пераходзіць да ўзмацаваньня пазыцыі т. зв. грамадзкай эліты. Польшча ўступае ў пэрыяд элітарызму і таталізму, г. зн., што дзяржаўным жыцьцём павінна кіраваць толькі тая група людзей, якая мае „społeczny" стаж. Ня будзем разглядаць тут тое, ці праводжаны новы дзяржаўна-палітычны лад адаб'ецца карысна ці ад'емна на жыцьці Польскае Рэспублікі. Затрымаемся толькі крыху над пытаньнем, у якім палажэньні апынуцца пры ім Беларусы. Апіраючыся на адбыўшыхся выбарах, можна сказаць, што сучасныя польскія палітыкі ня зьбіраюцца лічыцца з беларускай меншасьцяй, бо-ж у Сойме няма ані воднага пасла-беларуса. Відаць дзяржаўныя кіраўнікі ўважаюць, што Беларусы могуць абыйсьціся і без свайго соймавага прадстаўніцтва, а бараніць нашыя інтарэсы змогуць таксама добра і выбраныя на нашых землях паслы-палякі. Калі гэтак сапраўды шчыра думаюць,—то мыляюцца. Мы пераконаны, што будзе інакш, бо-ж толькі лічаныя адзінкі сярод выбраных паслоў блізкі цікавяцца беларускім пытаньнем, рэшта-ж і надалей будзе ,,рабіць палітыку" на нашых землях, ад якой беларускаму народу пэўне-ж не палягчэе, а Дзяржаве хіба-ж не прынясе карысьці. Ясна, што ад народу, якога правы ігнаруюцца, ня можна вымагаць нейкіх надзвычайных грамадзкіх павіннасьцяў. Гэтага, як ня дзіўна, мусіць і хоча сяньняшняя палітыка Польшчы, пазбаўляючы сваім занятым становішчам да справы беларускага прадстаўніцтва ў Сойме Беларусаў актыўнасьці поўнапраўных грамадзянаў, пакідаючы ім ролю лёяльна-пасыўную.

Такое становішча паказвае, што прыгожы лёзунг аб згодным сужыцьці народаў польскага і беларускага, як «роўны з роўным», застаецца і надалей толькі вэрбальным лёзунгам, абсолютна неправоджаным у жыцьцё.

Хоць выбарная статыстыка і кажа, што на нашых землях быў большы працэнт галасуючых чымсь у іншых акругох, аднак сотні тысячы паляшуцкіх галасоў на Галынскага і яму падобных, якіх Кобрынскі жыхар ніколі ў вочы ня бачыў, хіба-ж не павінны выклікаць ілюзыяў.

З усяго гэтага вынікае, што мы, Беларусы, пазбаўленыя свайго прадстаўніцтва, ня зможам бараніць ня толькі нацыянальныя і соцыяльныя правы на соймавым форуме, але і голасна казаць аб тых крыўдах, якія нас нярaз спаткалі і пэўне-ж яшчэ нярaз спаткаюць. Прыходзіцца яшчэ раз пераканацца ў правільнасьці той думкі, што лічацца толькі з сільнымі і дзеля гэтага нам неабходна з падвоенай энэргіяй узяцца за працу, разьлічаючы на свае ўласныя сілы і скіроўваючы ўвесь свой высілак да падняцьця нашага матэр'яльнага быту і так неабходнай нам асьветы; толькі будучы моцнымі эканамічна і культурна зможам зьдзейсьніць свае ідэалы.

## Італьянскія войскі гатовы да збройнага выступленьня.

„Дэйлі Тэлеграф" паведамляе, што 10.000 італьянскіх войскаў напраўлены з Афмары (Эрытрэі) на поўдзень і занялі пазыцыі на фронце даўжынёю ў 64 кілёмэтры.

Паводле вестак „Дэйлі Экспрэсс", прадстаўнік італьянскага ўраду заявіў наступнае:

„*Нашыя войскі гатовы пачаць ваенныя дзеяньні, як толькі скончыцца пэрыяд дажджоў, ня гледзячы на згоду ці нязгоду Лігі Нацыяў.* Нават калі Абісінія пойдзе пры падтрыманьні Лігі Нацыяў на самыя далёкія ўступкі, *мы ўсёж-такі будзем змушаны заняць нашымі войскамі абісінскую тэрыторыю. Ніякая згода не задаволіць нас без ваеннай акупацыі. Мы пашлем войска ў Абісінію, як толькі зможам і ніхто нас не паўстрымае.*

Корэспондэнт „Бэрлінэр Тагэблятту" паведамляе з Адзіс-Абэбы, што тамтэйшыя палітычныя колы цьвердзяць, быццам ваенныя выступленьні італьянцаў пачнуцца 24 верасьня г. г.

## Колектыўны мандат над Абісініяй.

Апошнімі днямі італа-абісінскі конфлікт ізноў разглядаўся на Радзе Лігі Нацыяў. Пакуль што абрады кончыліся тым, што Рада Лігі выбрала камісію з 5 дзяржаваў, якой і перадала вырашэньне гэтага конфлікту. У камісію 5-ёх увайшла таксама і Польшча.

„Таймс" паведамляе з Жэнэвы, што брытанская дэлегацыя высунула прапазыку ўстанаўленьня колектыўнага мандату Лігі над Абісініяй. Газэта цьвердзіць, што ў сучасны момант яшчэ не магчыма акрэсьліць, якую форму будзе мець гэты мандат, г. зн. ці будзе ён праводзіцца ў жыцьцё беспасярэдня Радаю Лігі пры помачы вярхоўнага камісара і офіцыяльных прадстаўнікоў, або будзе падзеляны між дзяржавамі, падпісаўшымі трактат 1906 году і выступаючымі ад імя Лігі Нацыяў. Адзінай засьцярогай Брытаніі ў зрэалізаваньні гэтай концэпцыі зьяўляецца дабравольная згода Абісініі на ўстанаўленьне такога мандату.

## Адказ Нэгуса.

Корэспондэнт Рэйтэра паведамляе з Адзіс-Абэбы, што абісінскі імпэратар і надалей займае пазыцыю поўнай незалежнасьці свайго краю і ніколі ня згодзіцца ні на колектыўны мандат, ні на італьянскі пратэктарат, і не дапусьціць павялічэньня атрадаў міжнароднай камісіі.

## Італа-нямецкае збліжэньне.

З Жэнэвы паведамляюць, што прыбыўшыя туды замежныя журналісты падчырківаюць жэнэўскія настроі, якія дыхаюць атмосфэрай італа-абісінскага конфлікту. Сымпатыі да Абісініі ў сяброў Лігі Нацыяў абасноўваюцца, галоўным чынам, на варожасьці да фашыстоўскага ладу, як антыдэмакратычнага.

Італія разумее, што яна ня можа разьлічаць на падтрыманьне з боку дэмократычных, парлямэнтарных дзяржаваў і гэтым тлумачыцца нахіл рымскай дыплёматыі ў старану Бэрліна. Італа-нямецкае збліжэньне асабліва яскрава выявілася пры ўручэньні канцлеру Гітлеру граматы новым паслом Італіі — Аттоліко. Як пасол, так і сам Гітлер падчыркнулі „супольнасьць ідэалаў фашыстоўскіх і нацыянал-соцыялістычных". Трэба зазначыць, што Гітлер асабіста прасіў Аттоліко прыняць учасьце ў нюрэнбэргскім нацыянал-соцыялістычным кангрэсе і што з усіх вялікіх дзяржаваў толькі Італія запрошана на гэты зьезд.

Італа-нямецкае збліжэньне моцна ўстрывожыла французскую дэлегацыю ў Жэнэве.

## Італія і яе ўваружаныя сілы.

За апошні час палітыка Муссоліняга робіцца такой актыўнай, што ня толькі Эўропа, але і ўвесь сьвет зьвяртае ўсё больш увагі на Італію. Насьпяваючая вайна з Абісініяй, пэўне, не абмяжуецца Афрыкай і выкліча нямінуча новую сусьветную разьню.

Муссоліні — чалавек з моцнай воляй і вялікай энэргіяй. Ён прайшоў, як кажуць, „агонь і ваду" Некалі быў сацыялістам-бунтаўшчыком, рыхтаваў паўстаньне супроць свайго караля (цяперашняга караля Італіі), быў рэдактарам сацыялістычнай газэты „Аванті" („Наперад"). Высланы з Італіі, як небясьпечны бунтаўшчык, не затрымаўся даўжэй у Швайцарыі і быў адтуль высланы.

Усё гэта не пашкодзіла, 13 год таму назад, таму ж самаму Муссоліняму пайсьці на Рым, скінуць урад і па сяньняшні дзень падыктатарску кіраваць дзяржавай, якая праўна зьяўляецца парлямэнтарным каралеўствам, на чале якога стаіць кароль Віктар-Эмануіл. Ад часу перавароту Італія паступова робіць усё большыя ўплывы на балканскую палітыку, а за апошнія гады і на эўрапэйскую палітыку наагул.

Італія займае абшар звыш трохсот тысячаў квадратных кілямэтраў (трохі меншы ад абшару Польшчы) і мае звыш 42 мільёнаў жыхароў, з якіх нацыянальных меншасьцяў каля паўтара працэнту (на тысячу 16 чалавек). Чыгункаў Італія мае 15 тысячаў 887 кілямэтраў. Тарговы флёт Італіі складаецца з 1205 караблёў, якія маюць тры мільёны 415 тысячаў тоннажу. Дзяржаўны бюджэт Італіі раўняецца 36 мільярдам і 740 мільёнам ліраў (1 ліра прыблізна 50 гр.). Сталіца Італіі-Рым мае звыш 1 мільёна жыхароў, з якіх каля 400 тысячаў жыдоў. Апрача Рыму ў Італіі ёсьць яшчэ некалькі вялікіх гарадоў—Нэаполь і Мілан маюць па 1 мільёну жыхароў, Гэнуя і Турын маюць па 600 тысячаў жыхароў.

Да Італіі ў сучасны мамэнт належыць 14 астравоў у Эгэйскім моры з насельніцтвам 114 тысячаў чалавек і наступныя калёніі ў Афрыцы: Эрытрэя з абшарам 117 тысячаў 676 квадратных кілямэтраў і насельніцтвам 446 тысячаў чалавек, Сомалі—658 тысячаў квадратных кілямэтраў з насельніцтвам звыш 1 мільёна, Лівія — паўтара

якія будуць выраблянца хімічнымі ляборатарыямі, а пасьля зьніштожым лішніх мужыкоў. Або яны паробяцца работнікамі, або паздыхаюць. Помніце, што бальшавізм зьяўляецца патройнаю вайною: вайною навуковых барбараў проці гнілое інтэлігенцчыны, вайною Усходу проці Захаду і вайною гораду проці вёскі. У бітвах, пры выбары зброі, мы неразборлівыя. Асоба, індывід—вось тое, што павінна быць здушана. Хто гэтаму спрацівіцца — будзе выразаны, як шкодная скула. Кроў—найлепшы натуральны гной.

— Не падумайце, —сказаў на закончаньне Ленін,—што я жорсткі. Усе гэтыя расстрэлы і казьні абрыдлі мне, але не магу паступаць іначай. Я не магу дапусьціць, каб некалькі тысяч пагражалі будучаму шчасьцю мільёнаў. Есьць у гэтым нейкая насалода—быць панам над жыцьцём і сьмерцю. Я, калі хочаце, паўбог, які сеў паміж Эўропай і Азіяй. Есьць рэчы, тайна каторых зьнікла з упадкам паганства. І чалавечыя ахвярапрынашэньні мелі ў сабе нешта добрае: былі глыбокім сымболем, узвышанаю навукаю, ачышчальным сьвятам. А я — замест гымну—чую, як равуць арыштанты і тыя, што мруць, але я запэўняю вас: гэтую сымфонію не абмяняў-бы на дзевяць Бэтховэнскіх. Гэта—пяяньне, што вяшчуе блізкае шчасьце...

Мне здавалася, што ўсхвалёваны і зьмяртвелы твар Леніна быў крыху выцягненым і як быццам прыслухваўся да ціхае музыкі. Увайшла Крупская і сказала, што яе муж стомлены і яму трэба адпачыць.

Аўдыенцыя скончылася.

## Праўны куток.

**Хвёдару Н. Дзісьненшчына.**

**Пытаньне**. Хачу замяніцца са сваім суседам хутаром; ці падобная замена дазволена і калі так, то ў які спосаб гэта зрабіць? Ці хопіць самога пераходу ў прысутнасьці сьведкаў з аднаго хутару на другі, ці патрэбныя тут яшчэ іншыя фармальнасьці?

**Адказ**. Згодна з абавязваючымі ў нас законамі (X том Збору Законаў, арт. 1374), замена зямлі, у дадзеным прыпадку хутароў, забаронена і калі-б Вы гэтую замену зрабілі ў прысутнасьці сьведкаў, а нават і перанясьліся з інвэнтаром і будынкамі на хутар Вашага суседа,—замена гэтая будзе няважнай. У кожную хвіліну сусед Ваш можа падаць на Вас у Суд і высяліць са свайго хутару, хіба пройдзе ад дня замены 10 гадоў і зойдзе даўнасьць. Тое самае зможаце зрабіць і Вы. Найбольш пэўным выхадам, хоць каштоўным, зьяўляецца прадажа: Вы прадаеце свой хутар суседу, сусед-жа свой хутар Вам. Кантракты гэтыя павінны быць зроблены ў натаруса.

**Мікалаю Ш. Пастаўшчына.** Гадоў 14—15 таму назад падзяліў сваю зямлю паміж 3 сыноў, даючы кожнаму па 3 дзесяціны. Сабе затрымаў адну дзесяціну і жыў пры старэйшым сыне. Сёлета гэты апошні, кажучы што даходаў з гэтай дзесяціны не хапае на маё ўтрыманьне, адмовіўся мяне карміць. Зьвярнуўся да іншых сыноў — і тыя адмовіліся мне памагчы. Маю 73 гады і працаваць ня маю сілы. Ці я магу забраць зямлю назад?

**Адказ**. Зямлі назад Вы ўжо ня возьмеце. Можаце аднак злажыць позаў (скаргу) у Суд на ўсіх трох сыноў і прасіць, каб Вам Суд прысудзіў ад іх аж да Вашай сьмерці алімэнты (ці то ў натуры, ці грашыма). Маеце на гэта ўсе дадзеныя (арт. 194, т. X. Збор Законаў). Калі ня маеце сродкаў на аплату судовых коштаў, вазьмеце ў гміне пасьведчаньне (świadectwo niezamożności),—дзе было-б дакладна пададзена што Вы маеце і колькі Вам гадоў,—і на падставе яго прасеце Суд, каб прызнаў Вам права беднасьці, а нават вызначыў бясплатнага адваката (obrońca z urzędu).

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

— У аўторак 3-га верасьня г.г. пачаўся школьны год. У сувязі з гэтым у Пятніцкай царкве а. Ніл. Кульчыцкі адслужыў інаўгарацыйны малебен з адпаведным казаньнем для вучняў Віленскай Беларускай Гімназіі.

— У нядзелю 8-га верасьня з прычыны ўгодкоў сьмерці сьв. пам. М. Ільяшэвіча, б. вучыцеля Віл. Беларускай Гімназіі, у Пятніцкай царкве была адслужана паніхіда. Няспрыяючая пагода перашкодзіла сабраўшымся ў царкве адведаць магілу памёршага.

— Выйшла з друку і прадаецца ўва ўсіх беларускіх кнігарнях камэдыя ў 1 дзеі п. н.: „Шустрая бабулька". Цана—40 гр.

## Вынікі выбараў у Сойм.

У склад новага Сойму ўвайшлі толькі дзьве кабеты. Абедзьве — з Віленшчыны.

Пэрсанальны склад Сойму наступны: 45 дробных земляробаў, 24 вялікіх земляўласьнікаў, 17 прафэсароў і вучыцялёў, 9 дактароў мэд., 13 адвакатаў, 4 духоўных, 3 натаруса, 6 інжынераў, 38 самаўрадовых і дзяржаўных урадоўцаў, 12 прамыслоўцаў, 6 купцоў, 6 рамесьленікаў, 8 публіцістаў і журналістау, 5 афіцэраў і 8 прыватных урадоўцаў.

У новы Сойм увайшло 58 паслоў, якія мелі мандаты ў папярэднім Сойме.

З Віленшчыны прайшлі ў Сойма наступныя кандыдаты.

З самое Вільні: Станіслаў Гэрмановіч, рабін Рубінштэйн, Віктор Малішэўскі і Ванда Пелчынская. З правінцыі: генэрал Люцыян Жэлігоўскі, Яніна Прыстарова, Альфонс Ёзаніс, Уладыслаў Камінскі, Ян Мысьлінскі і пад знакам запытаньня Барыс Піманаў.

## Гаспадарчы аддзел.

### Гадоўля авец.

Прайшло ўжо ня мала часу, як цэнтр гадоўлі авец перанёсся з Эўропы ў калёніяльныя краіны. Гадоўляй гэтай у шырокіх разьмерах займаюцца цяпер пераважна ў Афрыцы, Аўстраліі ды Паўднёвай Амэрыцы, дзе разводзяцца авечкі найлепшых ваўняных і кажуховых гатункаў. У Эўропе засталіся авечкі толькі з камбінаванай прадукцыяй, галоўным чынам мяса-ваўнянай. Толькі гатункі авец з камбінаванай прадукцыяю даюць магчымы даход гаспадаракам з вялікімі абшарамі натуральных пасьвішчаў.

Гадоўля авец моцна абніжалася на землях цяперашняй Польскай Дзяржавы. У 1870 годзе на гэтых землях гадавалася каля 15 мільёнаў авец. Пасьля гэтага году пачынаецца сталы спадак. У 1910 годзе лік іх акрэсьліваецца 2.178.000 шт., а ў 1927 годзе лік авец у Польшчы дасягае рэкардовае нізкае лічбы—1.917.000 галоў.

Ад 1929 году гадоўля авец у Польшчы павялічваецца і трэба зазначыць, што гэтае павялічэньне мае эканамічнае абаснаваньне. У Польшчу штогод увозіцца авечай воўны і скурак на суму прыблізна 125 мільёнаў злотых. Вось гэтыя 126 мільёнаў маглі-б з пасьпехам заставацца ў краі, калі-б гадоўля авец настолькі паднялася колькасна і якасна, каб магла цалкам задаволіць патрэбы свайго рынку. Аднак у нас на гэта даўгі час не зьвярталася ўвагі, пакуль гэтую справу не парушыла войска. Войска пачало дбаць, каб яго патрэбы на шарсьцяную адзежу і кажухі маглі быць задаволены вырабамі з сырцоў краёвага паходжаньня, каб войска ў прыпадку вайны ня мела ніякіх труднасьцяй з вопраткай. Толькі дзякуючы інтэрвэнцыі вайсковых колаў у Польшчы пачалася акцыя, маючая на мэце пашырэньне гадоўлі авец і палепшаньня іх якасьці. Войска ўжо вымагае ад прамыслоўцаў, каб заказваныя шарсьцяныя ім вырбы, рабіліся ў 50 працантаў з воўны краёвага паходжаньня. Апрача таго, адпаведнымі інстытуцыямі, як пр. ральнічымі паламі пачалася вясьціся акцыя ўпарадкаваньня і палепшаньня якасьці мясцовага авечага матэр'ялу. Асаблівая ўвага зьвернена на кажуховыя авечкі, якіх скурка найболей надаецца на кажушныя вырабы. Гэта вельмі важна для нас, бо кажуховая аўца разводзіцца пераважна на беларускіх землях.

З вышэй сказанага можна дапушчаць, што гадоўля нашай кажуховае аўцы будзе цалкам аплачвацца, пры ўмове калі яе якасьць хоць крыху будзе палепшана. Апрача таго цана авечых скурак залежыць і ад спосабу іх здыйманьня і консэрвацыі, бо ў промысьле гарбарскім заўважана, што палова авечых скурак, скупленых па вёсках, мала вартасныя. Гандаль і промысл вымагае, каб:

1) на скурах ня было калу, бруду, астаткаў мяса, крыві і т. п.;

2) скуры былі базбаўлены рогаў, губаў, ноздраў, хваставое косьці і мачавога мяшка;

3) канчыны былі адрэзаны зараз-жа ніжэй каленаў;

4) краі скураў былі роўныя і не растропаныя;

5) сырыя скуры былі добра законсэрваваныя.

Што датычыць консэрвацыі авечых скурак, то іх у нас звычайна сушаць. Аднак гэтым спосабам не заўсёды ўдаецца законсэрваваць скурку так, каб яна не псавалася. Было-б вельмі добра, каб нашыя гаспадары перад тым, як скуркі сушыць, яшчэ іх збольшага салілі звычайнаю сольлю. Апрача таго, каб скуркі не трацілі на сваёй якасьці, трэба старацца, каб яны ўлетку высыхалі ў працягу двух, найбольш 3 дзён. Доўга нявысыхаючая скурка псуецца. Сушыць скуркі трэба на вольным паветры, але ніколі не на сонцы, або ў якім небудзь іншым гарачым месцы. Калі высушаныя скуркі маюць перахоўвацца даўжэйшы час, то трэба іх забясьпечыць ад моляў. Дзеля гэтага звычайна ўжываецца нафталіна, тытунь, або нават і смалякі. Найлепшую скурку, маюць авечкі ўлетку. Скуркі „пятроўкі" лічацца самымі найлепшымі. Скуркі авец, забітых позьняй восеньню, лічацца горшымі.

## Маленькі фэльетон.

### Выбарчая ідылія.

Чытаю і вачом ня веру.

Пры новай сыстэме выбараў у Сойм, агітацыя за таго ці іншага кандыдата мае вельмі малое значэньне.

Аднак ёсьць людзі, ахвочыя да агітацыі.

Чытаю № 209 газэты „Русское Слово" за 6-е гэтага верасьня, г. зн. за два дні да выбараў у Сойм:

*„В 46-ом округѣ в Вильнѣ голосуйте за С. Мацкевича...*

Гэта — вялікімі афішнымі літарамі.

А за гэтым, крыху меншымі літарамі, артыкул: *„Друг русских— С. Мацкевич"*.

Чаму маскалём ці проста недабіткам былых окупантаў гэтай заходняй часьці былога *„Сѣверо-Западнаго Края"* гэтак падабаецца пан Мацкевіч?

Усё роўна, пакуль гэтыя словы будуць надрукованы, дзень выбараў—8 верасьня — міне, рэзультат выбараў будзе вядомы. Ясна, што не для перадвыбарчай агітацыі гэтых колькі слоў пішацца. Пішу іх, каб беларускаму чытачу ясною была неспадзяваная дружба выразнага ідэолёга польскага монархічна настроенага абшарніцтва і, як відаць, ня менш монархічных *„господ русских"*.

Гэтыя пагарэльцы з вялізарнага „вастрогу народаў" — былое рассейскае монархіі — пішуць у „Рус. Слове", што „сваіх уласных кандыдатаў у Вільні... ня маюць".

А дзеля гэтага ім прыходзіцца, або „ісьці за заклікам безадказнае опозыцыі і ня прымаць у выбарах ніякага ўдзелу, або, спаўняючы свой грамадзянскі доўг і памятуючы аб рэальных і жыцьцёвых інтарэсах рускага насяленьня, аддаць свае галасы таму з кандыдатаў, каторы выступаў у абарону рускіх і палітычнае credo якога не разыходзіцца з палітычнымі інтарэсамі, паглядамі і спадзяваньнямі расейскае нацыянальнае меншасьці"...

Што паміж монархістым польскім і расейскімі монархістымі можа быць сымпатыя -- гэта ня дзіва. Але „дружба" паміж імі выглядае проста на забаўную ідылію.

Рэдактар віленскага „Słowa" п Станіслаў Мацкевіч і дружба з ім... расейцаў? Ці-ж ня дзіўна?

Што так асабліва прыцягвае расейскія сэрцы да пана Мацкевіча?

Простая рэч: яго некаторыя процібеларускія выступленьні.

Не бяз шчырага мусі цынізму расейцы, бяз ніякай патрэбы, агітуюць за пана Мацкевіча:

„Хто чытаў заўсёды бліскучыя, напісаныя над'звычайна шустра, сур'ёзна і цікава, з вялікім знаньнем гісторыі Расеі і яе літэратуры, артыкулы п. Cat'a, — пад якою мянюшкаю піша Станіслаў Мацкевіч, — той ведае, што гэты відны польскі публіцысты, у кароткі час заваяваўшы сабе агульнае прызнаньне, востра і пераконвальна *паўставаў проці высоўваных і ў цяперашні час проектаў беларусізацыі Праваслаўнае Царквы ў нашым краі. Станіслаў Мацкевіч правёў цэлую газэтную кампанію за захаваньне за Праваслаўнаю Царквою ў Польшчы яе расейскага* (так і напісана—*россійскаго*) *характару*, правільна даказваючы, што жыцьцёвыя інтарэсы Дзяржавы вымагаюць сільнае і аўторытэтнае Праваслаўнае Царквы; разьбітая на часьці — *беларускую* і украінскую, яна можа зрабіцца здабычаю сэктантаў, што ані ня ў інтарэсах ні Польскае Дзяржавы, ні Рымска-Каталіцкае Царквы"...

Маліцца Богу ў праваслаўнай царкве беларусу расеец умеў, пад сваім панаваньнем, проста забараніць дый годзі, бо царква на Беларусі, як па ўсёй былой імпэрыі, *„носила россійскій характер"*.

Цяпер, у вызваленай з-пад маскоўскага панаваньня Польшчы, расеец цешыцца хоць тым, што пан С. Мацкевіч палохае сьвет усімі дзяржаўнымі страхамі, калі толькі пасьмее беларус на сваёй роднай мове зьвярнуцца да Бога ў праваслаўнай царкве.

Бедныя расейцы! За 150 гадоў свайго панаваньня над гаротным беларусам „у волюшку" над ім яшчэ неназьдзекаваліся! Прыходзіцца, на павароце нелітасьцівае да іх гісторыі, бараніць сваю апошнюю цытадэль: расейскасьць праваслаўнае царквы! І нават таго, на каго нядаўна яшчэ з гары глядзелі, называць цяпер сваім „другам"!

Добра, калі гэта толькі кароткая перадвыбарчая ідылія.

А то проста хоць ты на сьвет Божы ня вылазь, беларусе!

*Паўпэр.*

**Пашырайце нашу газэту.**

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тел. 21-14.